**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер, выдаецца на беларускай мове.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года | 4 (512) 28 студзеня 2010 года | Кошт **свабодны**





Фота Ул. Скрабатуна

в. Забелле ўзімку.



Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па **хатняму** тэлефону на нумар 166. **Кругласутачна.** Выразна назавіце назоў газеты. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".

Кошт абвесткі аб'ёмам да 5 слоў – 2500 рублёў. Кожнае далейшае дадатковае слова – 300 рублёў.

Абвестка тлустым шрыфтом да 5 слоў – 3000 рублёў. Кожнае далейшае дадатковае слова – 400 рублёў.

Між тым, парадак прыёму прыватных абвестак у месяцах продажу нашай газеты – нязменны.

# Ó Ïîëàöêó ïà¢ñòàëà «êâàòýðíàå ïûòàííå» äëÿ à¢òàìàá³ëÿ¢



■ *Аляксей Котаў*

**Многія полацкія аўтааматары атрымалі нечаканы падарунак. Незадоўга да Новага года паведамленні пра тое, што ім неабходна з’явіцца ў мясцовае аддзяленне ДАІ для высвятлення пытання за здзейсненыя імі парушэнні Правілаў дарожнага руху.**

Парушэннем, як высвятлялася, была паркоўка аўтамабіля ва ўласным двары быццам бы на газоне. Пратаколы за такое парушэнне складалі работнікі жыллёва-камунальнай гаспадаркі яшчэ ў лістападзе, а газонам, як высветлілася, лічыцца любы незаасфальтаваны кавалак зямной паверхні.

«Каля нашага дома ўвогуле няма спецыяльнай пляцоўкі для паркоўкі, расказвае адзін з аўтааматараў. Уздоўж усяго дома заасфальтаваны выключна вузкі праезд. Зялёная зона абнесена агароджай, і туды ніхто з нас ніколі і не заязджае. Але за парушэнне правілаў паркоўкі палічылі тое, што мы пакідаем свае машыны на прамежку паміж сто гадоў не раманітаваным праездам і гэтай самай агароджай. Калі я паскардзіўся на сітуацыю работніку ДАІ, які спаганяў з мяне штраф, ён сказаў, што сітуацыю разумее, і распавёў, што і ДАІ, са свайго боку, падымала пытанне з забеспячэннем неабходнай колькасці парковачных месцаў перад работнікамі ЖКГ, на што атрымала адказ "Вашая справа спаганяць штрафы за парушэнне"».

Падобная сітуацыя з паркоўкай машын характэрная не толькі для Полацка. І гэта пры тым, што нават напрыканцы 80-х гадоў ужо мінулага стагоддзя за часамі Савецкага Саюза будаўнікі пры здачы дома па законе былі абавязаны абсталяваць пляцоўку для паркоўкі з разліку 1 машына на 3 новазбудаваныя кватэры.

Большасць з тых, хто купляе цяпер машыны, не збіраюцца трымаць іх у гаражы, да якога з цэнтру яшчэ трэба на чымсьці дабірацца.

«Машына мне патрэбна кожны дзень, мне прыходзіцца матацца па рабоце паміж Полацкам і Наваполацкам з раніцы да вечара, гаворыць яшчэ адзін аўтааматар. Сэнсу набываць гараж на ўскраіне не бачу, бо буду губляць 30-40 хвілін штодзённа на даезд да гаража і ад яго дадому. Таму машыну паркую там, дзе жыву. Так робіць і большасць маіх суседзяў. Таму двор наш застаўлены машынамі па вечарах вельмі плотна. Месца для паркоўкі заўсёды не хапае, але я ні разу не бачыў, каб хто-небудзь рэальна паставіў машыну на траву. Там, дзе мы паркуемся, няма ніякага асфальту проста голая зямля з рэшткамі ад моманту здачы дома непрыбраных кавалкаў цэменту. І ніякай травы, ні газоннай, ні звычайнай, там ад пачатку не расло. Я ў гэтым доме жыву ўжо 14 год, машыну 7 год як купіў. І ніколі ніхто нам раней не казаў, што мы нешта парушаем. Дарэчы, заасфальтаваная стаянка пры доме ёсць. Туды можна ўціснуць машыны тры. А ў доме 60 кватэр».

Дарэчы, згаданым вышэй аўтааматарам яшчэ пашчасціла, што работнікі ЖКГ дабраліся да іх двароў так позна, бо да кастрычніка 2009 года дзейнічалі «Правілы добраўпарадкавання і ўтрымання гарадоў і гарадскіх пасёлкаў...», зацверджаныя Міністэрствам ЖКГ у 1997 годзе. Згодна з гэтым дакументам, мінімальная сума штрафаў за паркоўку на газоне складала ад 5-ці базавых велічынь 175.000 рублёў. Паводле Правілаў дарожнага руху штраф за паркоўку на газоне складае ўсяго 7.000 рублёў.

Цікава, што законы, такія строгія ў пытаннях захавання газонаў, чамусьці ніяк не абавязваюць камунальшчыкаў добраўпарадкаваць падначаленую ім тэрыторыю і забяспечыць належную колькасць парковачных месцаў ці хаця б выдзяляць бардзюрам зялёныя зоны ў дварах.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Ðàçãóëÿ¢ñÿ «÷ûðâîíû ïåâåíü»

■ Кастусь Александровіч

**Варта было ў нашай краіне ўсталявацца працяглым зімовым халадам, як паўсюдна паявілася колькасць пажараў.**

Не стаў выключэннем і Пастаўскі раён, дзе на працягу толькі пяці студзеньскіх дзён адбыліся 4 вогненныя здарэнні. Спачатку загарэлася аграсядзіба ў жылым раёне райцэнтра ў вёсцы Вярэнькі з-за парушэння правілаў устройства і эксплуатацыі перакладзенай занава печы пасля яе прапалу. Агонь знішчыў маёмасць жылога пакоя, пашкодзіў перакрыццё столі. За тыдзень да гэтага здарэння па аналагічнай прычыне практычна згарэў дачны дом на беразе возера ля вёскі Чарты, які належыць мінчанцы. З-за кароткага замыкання электраправодкі згарэў хлеў у гарпасёлку Лынтупы і моцна пацярпела потым ад полымя яшчэ адна такая пабудова ў жылым мікрараёне, дзе месціцца Варапаеўскі завод жалезабетонных вырабаў. Так нацеплілі лазню ў прыгранічнай з Літвой вёсцы Мольдзевічы, што яна палыхнула агнём. На шчасце, пакуль у раёне на пажарах не было ахвяр з пачатку года (летась загінулі 7 чалавек), а на Віцебшчыне агонь ужо забраў жыцці больш 30 чалавек. Праўда, на Пастаўшчыне двое чалавек загінулі ад абмаражэння, а ў Лынтупах пенсіянер нечакана лёг па нейкай прычыне на дарозе і загінуў. Ехаўшы па гарпасёлку на іншамарцы літовец, як паказаў следчы эксперымент, ніяк не мог прадухіліць наезд.

Ì¸ðñê³ ðà¸í

# Äà þá³ëåþ íàâàñåëë³

■ Станіслаў Раманчук

**Мінула роўна 70 гадоў з таго часу, як на тэрыторыі даваеннай БССР з’явіліся 40 новых раёнаў, у тым ліку і на захадзе Віцебскай вобласці. Да юбілею ў кожным з гэтых райцэнтраў запланаваны і праводзяцца шэраг розных мерапрыемстваў.**

Напярэдадні ўрачыстага юбілейнага пасяджэння ў Мёрах з гэтай нагоды спецыяльна прымеркавалі адкрыццё ў горадзе свайго выдатнага фізкультурна-аздараўленчага комплекса. Гараджане задаволены, што ёсць дзе цяпер з карысцю для здароўя бавіць вольны час у спартыўнай і трэнажорнай залах, а таксама плаваць у басейне. З пачаткам дзейнасці свайго ФАКа будзе дадзены новы імпульс развіццю мясцовага спорту і спортклубу. Да юбілею раёна на Мёршчыне ўдалося пабудаваць такую сама рэкордную колькасць, амаль 13 тысяч квадратных метраў жылля. У райцэнтры здалі ў эксплуатацыю 60-кватэрны жылы дом і на долевых пачатках пачалі ўзводзіць яшчэ адну шматпавярхоўку. Для жыхароў сельскай мясцовасці будаўнікі летась пабудавалі яшчэ 43 катэджы. Да юбілею раёна арганізавалі таксама ярмарку мясцовых народных майстроў, экспазіцыю аб людзях, якія праславілі гэты край.

Äîêøûöê³ ðà¸í

# Ãàñïàäàðêó ñòàëà íå ïàçíàöü

■ Чэслаў Якубовіч

**Для маленькіх навучэнцаў Бярозкаўскай школы-сада, што ў Докшыцкім раёне, сёлетнія зімовыя канікулы сталі асабліва памятнымі.**

У якасці навагодняга падарунка ад сваіх шэфаў калектыва Міністэрства юстыцыі Беларусі яны атрымалі запрашэнне і білеты на адно з прадстаўленняў у сталічным тэатры лялек. Акрамя таго, дзеці атрымалі ад супрацоўнікаў міністэрства салодкія падарункі на свята. Не аднойчы з гэтай місіяй наведваўся сюды сам Міністр юстыцыі Віктар Галаванаў. Аднак найбольшую розную дапамогу па даручэнню ўрада гэта міністэрства на працягу 5 апошніх гадоў аказвала мясцовай раней занядбанай гаспадарцы, СВК імя Чэрныша. На малаўрадлівых, камяністых землях калгас ледзь не збанкрутаваў, але яму змаглі аказаць неабходную фінансавую падтрымку. Пасля стварэння ў вёсцы Бярозкі аграгарадка прапанавілі матэрыяльна-тэхнічную базу, абзавяліся новай тэхнікай, адрамантавалі фермы. У выніку летась гэта гаспадарка ўпершыню завяршыла сельскагаспадарчы год з чыстым прыбыткам каля 400 млн. рублёў. Больш сталі вырабляць і прадаваць вяскоўцы сваёй прадукцыі, лепей зарабляць пасля выхаду на рэнтабельную дзейнасць. Змянілася знешне ў лепшы бок не толькі сама вёска, але і настрой у пражываючых тут дарослых і дзяцей

Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì www.rp5.ru

| Мясцовы час | чацвер 28.01.10 | | | | пятн.29.01.10 | | | суб. 30.01.10 | | нядз.31.01.10 | | пн 01.02. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | - | - | - |
| Тэмпература, °С | -22 | -21 | -12 | -12 | -12 | -13 | -8 | -11 | -5 | -7 | -4 | -9 | -5 |
| Ціск, мм | 744 | 738 | 734 | 731 | 729 | 729 | 728 | 730 | 734 | 735 | 740 | 743 | 743 |
| Вільготнасць, % | 73 | 84 | 71 | 79 | 85 | 87 | 77 | 86 | 80 | 85 | 83 | - | - |
| Вецер м/сек | Ю 6 | Ю 7 | Ю 8 | Ю 8 | Ю 8 | Ю 7 | Ю 6 | Ю 5 | Ю 4 | Ю 6 | Ю-З 3 | С-З 2 | С 4 |

## Äçåíü çà äíåì

**Па выніках працы летась Беларусі ўдалося выйсці на паказчыкі дакрызіснага года з тэмпамі росту ВУП 100,2 %. Аднак рост інфляцыі больш чым на 10 працэнтаў і прайшоўшая дэвальвацыя беларускага рубля істотна пагоршылі ўзровень жыцця насельніцтва, а прамысловасць краіны "абвалілася" амаль на чвэрць. У гэтым годзе таксама няпроста будзе выйсці на павышаныя тэмпы развіцця эканомікі, праўда, на дапамогу беларусам прыйдзе капітал з Кітаю ў суме каля 6 млрд. USD інвестыцый.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

***Гаіці.*** Катастрофай стагоддзя на трапічным востраве стаў магутны землятрус, яго ахвярамі сталі больш 100 тысяч чалавек, усемагчымую дапамогу гэтай краіне аказваў увесь свет.

***Украіна.*** Як і прагназавалася, на 7 лютага прызначылі другі тур прэзідэнцкіх выбараў, у якім паспрачаюцца за пасаду прэм'ер-міністр Ю. Цімашэнка і лідэр апазіцыі В. Януковіч.

***Расія.*** Кіраўніцтва РФ вырашыла сёлета пастаўляць у Беларусь са 100-працэнтнай пошлінай не толькі нафту, але і нафтапрадукты і пагражала поўнасцю пазбавіць яе квот.

***Венесуэла.*** Прэзідэнт Уго Чавес пасля дэвальвацыі нацвалюты балівара на 17 % загадаў арміі краіны ўключыцца ў барацьбу са спекуляцыяй, бо цэны на ўсё яшчэ больш выраслі.

***Малдова.*** У Кішынёве прайшлі перамовы аб асацыяніраваным членстве краіны ў ЕС, прэм'ер Влад Філат паабяцаў грамадзянам безвізавыя паездкі ў Еўрасаюз у канцы года.

***ЗША.*** Калі дыпламатычныя меры не дадуць выніку, то амерыканскія ВПС, як заявіў генерал Дэвід Петрэус, могуць нанесці моцны ўдар па ядзерных аб'ектах Ірана.

***Польшча.*** З гэтага года краіна напалову зрэзала пенсіі для былых супрацоўнікаў спецслужбаў ПНР і вышэйшых адстаўных афіцэраў, служыўшых у час "ваеннага стану".

***Ізраіль.*** Вучоныя краіны знайшлі ў пустыні новы від гігантскіх начных павукоў з памерамі ног 14 см у даўжыню, якія жывуць у пячорах і харчуюцца нават яшчаркамі.

***Кітай.*** Услед за ЗША кітайцы стварылі свой магутны суперкамп'ютар "Цяньхэ-1", які здольны праводзіць больш аднаго квадрыльёна розных аперацый у секунду.

***Францыя.*** Пяты год запар эксперты прызналі краіну самай зручнай у свеце для якаснага жыцця людзей, сярод 195 дзяржаў найлепш жыць у Аўстраліі, Германіі, Бельгіі, ЗША.

***Украіна.*** Апеляцыйны суд Кіева прызнаў І. Сталіна і іншых бальшавіцкіх лідэраў СССР вінаватымі ў арганізацыі ў краіне галадамору і генацыду нацыі ў 1932-1933 гадах.

***Чарнагорыя.*** Моцна здзівіўся жыхар адной з вёсак, калі каля хаты ля хлева ўбачыў бегемоціху, якая падчас моцнай паводкі ўцякла па вадзе вышэй агароджы з заапарку.

***Кітай.*** Да 2020 года больш 24 млн. маладых кітайцаў, па розных прычынах, не будуць мець нявест, бо з-за выбарачных абортаў большасць сем'яў раджаюць толькі хлопчыкаў.

***Францыя.*** Парыжскі каралеўскі музей Луўр зноў стаў самым папулярным у свеце, летась яго выставачныя залы і экспазіцыі наведалі 8,5 млн. чалавек з розных краін свету.

***Канада.*** Упершыню 37-гадовы беларус Анатоль Багавік з Мінска па запрашэнню МАК прыняў удзел на этапе эстафеты Алімпійскага агню да сталіцы зімовай Алімпіяды.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

***Мінск.*** Абаненцкая база паслуг шырокапалоснага хуткаснага доступу ў Інтэрнэт за мінулы год у Беларусі пад гандлёвай маркай byfly перавысіла 400 тысяч карыстальнікаў.

***Гродна.*** Рэдкую зімой атмасферную з'яву вясёлку і тры сонцы назіралі ў небе яснай марознай раніцай на працягу некалькіх гадзін жыхары ўсходняй часткі абласнога цэнтра.

***Мінск.*** Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч запатрабаваў сустрэчы з уладамі РБ пасля высылкі яшчэ двух польскіх ксяндзоў, іх і манашак за 5 гадоў было выслана больш 30.

***Брэст.*** Прэмія ўрада Беларусі ў галіне якасці прысуджана адразу тром прадпрыемствам горада вагоннаму дэпо, мясакамбінату і ТАА "Вегас" з усяго дзесяці па краіне.

***Навагрудак.*** Упершыню ў беларускім судзе на працэсе прагучала абвінавачванне Леніну і камунізму ў злачынствах супраць Беларусі, яго агучыў кандыдат навук Ю. Бачышча.

***Ельск.*** У райцэнтр экстрана перавезлі 30 пацыентаў сельскіх бальніц, застаўшыхся без святла пасля разгулу снежнай стыхіі, раён найбольш пацярпеў ад яе на Гомельшчыне.

***Мінск.*** Беларусь летась займела сумнае лідэрства ў СНД па тэмпах росту афіцыйнага курсу долара ЗША да сваёй нацвалюты на 30,14 % на працягу мінулага года.

***Кобрын.*** За высокія цэны, холад і чэргі ў новым аквапарку аблвыканкам зняў з займаемых пасад намесніка старшыні райвыканкама, дырэктараў мясцовай ЖКГ і самога аквапарка.

***Шклоў.*** Жонку кіраўніка краіны, маці двух яго старэйшых сыноў Галіну Лукашэнка ўзнагародзілі Ганаровай граматай Савета міністраў РБ за шматгадовую плённую працу.

***Гомель.*** На заводах "Гомельхлебпрама" пачалі масава выпякаць хлеб з кусочкамі сала шпік, якія дзякуючы сучасным тэхналогіям не ператвараюцца ў тлушч.

***Мінск.*** Багаценькія беларусы з 2010 года пры продажы аўтамабіля вагой больш 3,5 тоны павінны выплочваць падаходны падатак, у сталіцы прадалі кватэру за 1,7 млрд. рублёў.

***Жыткавічы.*** Райпракуратура спыніла крымінальную справу супраць паляўнічага з Францыі, забіўшага неасцярожна зубра з дзіцём, за іх ён заплаціў 22 тыс. EUR штрафу.

***Мінск.*** Мясцовыя выбары 25 красавіка, як заявіла старшыня ЦВК Л. Ярмошына, пройдуць без міжнароднага назірання, на іх і на прэзідэнцкіх выбарах не будзе празрыстых урн.

***Шклоў.*** На радзіме А. Лукашэнкі ў аграгарадку Александрыя здалі ў эксплуатацыю самы шыкоўны і сучасны ў Беларусі дзіцячы сад-яслі з ізастудыяй, заламі гімнастыкі, музыкі.

***Капыль.*** Пад ахову ЮНЕСКА быў узяты першы ў краіне аб'ект нематэрыяльнай спадчыны рэдкі калядны абрад "Цары", які захаваўся толькі ў вёсцы Семежава.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

***Віцебск.*** Поўнай нечаканасцю для завода ААТ "Малако" стала рашэнне ветслужб Расіі аб узмацненні кантролю за яго прадукцыяй з-за выяўлення ў ёй антыбіётыкаў.

***Полацк.*** Старажытны горад першым у Беларусі атрымаў на спецакцыі афіцыйны ганаровы статус "Культурная сталіца краіны", штогод тут прымаюць да 1 мільёна турыстаў.

***Віцебск.*** Пераможцамі нацыянальнага конкурсу "Брэнд года-2009" у намінацыі "Прамысловыя спажывецкія тавары" сталі віцебскія фабрыкі абутку "Белвест" і "Марка".

***Гарадок.*** На радыётэлевізійнай станцыі вёскі Бычыха пачаў працаваць шосты ў вобласці рэтранслятар лічбавага ТБ сацыянальнага пакета 8 каналаў, для прыёму трэба прыстаўкі.

***Віцебск.*** З улікам пачатку новай эпідэміі па вобласці бясплатную вакцынацыю супраць грыпу A/H1N1 прайшлі 56 тысяч работнікаў важнейшых сфер жыццязабеспячэння.

***Лепель.*** Спецыялісты дзяржкантролю выявілі ў 37 % праверaных крам раёна адсутнасць у продажы хлеба, булачных вырабаў, малака і шэраг няякасных, залежалых тавараў.

***Орша.*** Каб разгрузіць склады льнокамбіната, гандлёвым прадпрыемствам і арганізацыям вобласці загадалі правесці месячнік-акцыю па масаваму вывазу адсюль вырабаў са льну.

***Чашнікі.*** На мадэрнізацыю папяровай фабрыкі "Чырвоная зорка" выдзеліў 60 млрд. рублёў, ёй купяць адну сучасную замежную машыну па вырабу паперы і картона.

***Віцебск.*** Пасля сур'ёзнай аварыі вадаправода без падачы вады да вясны засталіся жыхары значнага раёна прыватнай забудовы Себяхі, адна з вуліц стала тут сапраўдным катком.

***Орша.*** Сумесна з Віцебскім тэхналагічным дзяржуніверсітэтам льнокамбінат выпусціў эксперыментальную партыю ўнікальных цалкам льняных джынсавых тканін.

***Докшыцы.*** Райпракуратура завяла крымінальную справу супраць старшыні Бягомльскага пассавета за незаконнае рашэнне аб выдзяленні зямельных участкаў жыхарам вобласці.

***Віцебск.*** Суд раёна аштрафаваў на 70 тыс. рублёў жыхара горада за несанкцыянаванае ўсталяванне 5 крыжоў на месцы масавых расстрэлаў ахвяр сталінізму ля вёскі Паляі.

***Гарадок.*** Упершыню на цэнтральнай плошчы райцэнтра залілі лядовы каток для катання на каньках, аднак да стварэння пункта пракату спортінвентару справа пакуль не дайшла.

***Орша.*** У вёсцы Харкаўка на пажары ў сваёй хаце загінуў 27-гадовы жыхар з сябрам, якія добра замачылі нараджэнне дзіця, за паўмесяца на Віцебшчыне агонь забраў 24 жыцці.

***Віцебск.*** Толькі 5 з паказаных больш чым 30 спектакляў сабралі поўную глядацкую залу ў драмтэатры імя Я. Коласа, былі стратнымі і ўсе 10 гастрольных выездаў гэтага калектыва.

***Лепель.*** Урачы ветстанцыі правялі вакцынацыю ўсіх дамашніх жывёл у вёсцы Лазовікі, дзе пала ад шаленства карова, яе гаспадарам, работнікам аграсервіса зрабілі прышчэпкі.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

# 65.000

***чалавек*** **-** такая зараз, па дадзеных Міністэрства абароны Беларусі, агульная колькасць Узброеных Сіл нашай краіны. Трэба ўлічваць, што ў беларускай арміі 50 тысяч ваенных людзей у пагонах, а яшчэ 15 тысяч гэта грамадзянскі персанал, які працуе і абслугоўвае ў асноўным воінскія часці, выконвае іншыя армейскія задачы. Нават на дзяржаўным узроўні прызнаецца, што такая колькасць вайскоўцаў празмерная, і кіраўнік краіны А. Лукашэнка пабяцаў нядаўна, што армія будзе паступова скарачацца.

Нікога з людзей у пагонах, якім у пачатку гэтага года крыху паднялі зарплату, дзяржава не збіраецца выкідваць на вуліцу, а колькасць вайскоўцаў будзе вагацца ў раёне колькасці 55-60 тысяч. Акрамя арміі ў нашай рэспубліцы таксама дзейнічаюць асобна яшчэ Унутраныя войскі МУС і падраздзяленні пагранічнай службы, супрацоўнікі Міністэрства па надзвычайных сітуацыях. Дарэчы, яшчэ некалькі гадоў назад кіраўніцтва беларускай арміі мела планы скарачаць тэрмін абавязковай воінскай службы да 1 года для прызыўнікоў і да паўгода для хлопцаў з вышэйшай адукацыяй.

Аднак гэтым намерам не далі сваю згоду менавіта пагранічнікі і войскі міліцыі, спаслаўшыся, што за меншы тэрмін службы нельга падрыхтаваць кваліфікаваных спецыялістаў для іх часцей. Праўда, у арміі суседняй Расіі пайшлі на скарачэнне тэрмінаў службы, а ў Польшчы і Літве наогул пераходзяць на добраахвотны прызыў у войска і на стварэнне поўнасцю прафесійнай арміі. Паступова і беларускія вайскоўцы пераходзяць на службу па кантракту, увялі прагрэсіўную форму службы ў рэзерве.

А ўвогуле за савецкім часам тэрыторыя тагачаснай БССР была адной з самых мілітыразаваных зон у свеце, паколькі асабовы склад Беларускай ваеннай акругі складаў тады 240 тысяч чалавек і па сваёй магутнасці не саступаў нямецкаму бундэсверу. У любы момант на беларускай зямлі гатовы былі да баявых дзеянняў амаль 8 тысяч танкаў і іншых браніраваных машын, 427 баявых самалётаў і 220 баявых верталётаў. Празмерныя расходы на абарону, вайна ў Афганістане і іншыя прычыны знясілілі савецкую эканоміку і прадвызначылі распад звышдзяржавы СССР.

Пасля гэтага ў суверэннай Беларусі канцэнтрацыя войскаў скарацілася амаль у 4 разы, а ўзбраенняў у 2 разы. Беларусам удалося нябблага зарабіць ад продажу лішкаў зброі і пачаць рэфармаванне арміі ў адпаведнасці з Дагаворам аб абмежаванні звычайных узбраенняў. Замест трох савецкіх армій былі сфарміраваны армейскія корпусы на аснове новых механізаваных брыгад (колькасць да 3200 чалавек) і баз захоўвання ўзбраення і тэхнікі. На аснове ранейшых дэсантных часцей стварылі 3 мабільныя брыгады, зараз сілы спецыяльных аперацый.

У навейшай гісторыі краіны было расфарміравана 280 часцей, звольнена 7,5 тысяч афіцэраў і прапаршчыкаў, а вольнанаёмных 35 тысяч. У Беларусі ёсць на выпадак ваенных канфліктаў абучаны рэзерв у колькасці да 450 тысяч салдат і афіцэраў запасу. Практычна завершана стварэнне сучаснай сістэмы атрымання ваеннай адукацыі, падрыхтоўкі ваенных спецыялістаў, захоўваецца змешаны парадак камплектавання войскаў.

Дзяржава захавала ўнікальны савецкі ваенны навукова-тэхнічны патэнцыял, які выкарыстоўваецца для ўдасканалення ўзбраенняў і для мадэрнізацыі арміі Беларусі, адной з найбольш баяздольнай на тэрыторыі СНД. Летась у краіне стварылі плануючую кіруемую авіябомбу, завяршаецца мадэрнізацыя 40 рэактыўных сістэм залпавага агню "Смерч" з лазерным навядзеннем. І гэта правільна. У сучасных умовах выхад баявых дзеянняў вырашае не колькасць салдат, а найперш высокакадкладная зброя.

Наша краіна заключыла дамову аб супрацоўніцтве з Расіяй у ваенна-тэхнічнай сферы. Ваенна-стратэгічны фактар ва ўзаемаадносінах з ёй дапамагаў да апошняга часу атрымоўваць ад Масквы шэраг эканамічных прэферэнцый. Пакуль беларусы могуць ганарыцца, што структура і прынцып камплектавання нашай арміі адпавядаюць сучасным патрабаванням ЕС. Маючы такія Узброеныя Сілы, краіна можа спакойна працаваць і развівацца далей, вырашаць свае надзённыя задачы, дыктуемыя жыццём у XXI стагоддзі.

# ²õ íåëüãà

Àíòîí Â³êòàðàâ³÷ Ôóðñ

## I

Перш, чым напісаць успаміны пра сваіх настаўнікаў, якія працавалі ў Язненскай 7-гадовай школе пры першых саветах і ў часы нямецкай акупацыі, я хачу пару слоў напісаць пра самое мястэчка Язна, пачынаючы з таго моманту, дакуль сягае мая памяць.

Мястэчка Язна было-га Дзісненскага павету ляжыць на ўсходніх берагах азёраў Вялікае і Малое Язненскае, якія паміж сабой злучаныя невялічкай безназоўнай рэчкай.

Мясцовасць вельмі маляўнічая, але прыкметных гістарычных аб'ектаў няма, хіба толькі тое, што за 3 кіламетры ад Язна, на скрыжаванні дарог Глыбокае-Дзісна-Язна, знаходзіцца так званая Каралеўская Карчма. Цяпер гэта звычайны дамок дарожнай службы. Назва гэтая, па чутках, паходзіць ад таго, што тут пад час бітвы за Полацк супраць маскалёў адпачываў сам Сцяпан Баторы. З паўднёвага берага Малога Язна знойдзена старажытнае гарадзішча Днепра-Дзвінскай культуры 3-4 стст нашай эры. Былі праведзеныя раскопкі і выяўленыя рэшткі жытлаў і розныя старажытныя прылады і ўпрыгожванні таго часу. Цікава, што жыхароў, якія мелі свой хутар каля гэтага месца і мелі прозвішча Шчарбіцкія, усе мясцовыя людзі называлі "князямі". А былі яны ўсе прыгожыя, статныя. Наогул, нешта было ў іх такое, што адрознівала ад іншых.

Усе яны ўжо памерлі, толькі адна "князёўна" паважанага ўзросту (ёй каля 90 гадоў) жыве ў прыватным доміку ў г. Полацку. Па мужу яе прозвішча Ляўковіч, і яна з'яўляецца маткай выдатнага мастака Міхася Ляўковіча.

За польскім часам Язна была гмінай на чале з панам вуйтам і яго памочнікам. Быў пастарунак і паліцыянт, які наглядаў за парадкам. Была пошта, аптэка, працаваў фельчар, які лячыў ад усіх хваробаў. Кожную сераду былі кірмашы. Вялікай папулярнасцю карысталася пажарная ахова.

У пажарнай ахове служылі не толькі хлопцы, але і дзяўчаты. Мелі яны прыгожую сінюю форму і бліскучыя шлемы. У іх быў духавы аркестр, часамі займаліся мастацкай самадзейнасцю. Ставілі і беларускія п'есы. Помніцца п'еса "Збянтэжаны Саўка". Вельмі ж падабалася мясцоваму люду.

У мястэчку было каля 10 габрэйскіх крамаў. Габрэяў вельмі багатых не было, больш сярэдняга дастатку, але ж маглі вучыць сваіх дзяцей на лекараў, то на адвакатаў. Былі і зусім бедныя, але паколькі жылі кагалам, то багацейшыя дапамагалі бяднейшым, якія звычайна мелі шмат дзяцей.

А наогул, людзі жылі беднавата, бо акрамя зямлі не было дзе зарабіць грошы, а зямлі было мала. Калі ж гаспадар быў рупны, то яшчэ нічога, а калі ленаваты, ці меў вялікую сям'ю, то бывала часам і хлеба не хапала.

Большасць тутэйшага насельніцтва гэта – праваслаўныя. Не дарма ж тут тыповыя цэрквы з прыкметнай расійскай архітэктурай – цыбулінай наверсе. Але асаблівых канфліктаў паміж людзьмі розных канфесій не было – жылі памяркоўна.

На самым прыгожым і высокім месцы была праваслаўная царква. Службу ў ёй вёў пратаірэй Філіп Лузгін. Ён уцёк з Усходняй Беларусі ад бальшавікоў, а дзеці засталіся там. Некаторы час бацюшка перасылаў ім даляры і відаць зрабіў ім дрэнную паслугу, бо хутка ад іх не было ніякай весткі. Пэўна, за сувязь з заграніцай іх выслалі ў далёкія краі?

Недалёка ад царквы на цэнтральным пляцы быў устаноўлены помнік Ю. Пілсудскаму. Не ведаю чаму такога гонару прычынілася Язна. Магчыма, тут жыў якісь уплывовы паляк, а магчыма і таму, што ў Язна была пабудаваная школа яго імя.

Гэта быў вялікі драўляны будынак у форме літары "П" з бляшаным дахам, спартыўнай залай і кватэрай для дырэктара. Хадзілі чуткі, што такіх школ было пабудавана роўна 100. І ўсе на Крэсах Усходніх з мэтай хутчэйшай паланізацыі мясцовага люду. Настаўнікамі ў школе былі палякі, і навучанне ішло выключна на польскай мове. Пра Беларусь тут не было ніякай згадкі. Прымушалі ўсіх вучняў размаўляць толькі па-польску. Былі створаныя дзіцячыя арганізацыі: гарцэжы, стшэльчыкі. Усё ішло да таго, каб з нас зрабіць палякаў. Але ж гэта ім удавалася вельмі дрэнна, бо ў наваколлі палякаў і нават католікаў, якія сябе часам лічылі палякамі, было мала. На лекцыях размаўлялі па-польску, а на перапынках і дома па-свойму.

Як вядома, ў той час не было тэлебачання, вельмі мала радыё, ды амаль ніхто не выпісваў прэсу і таму зрабіць з нас палякаў было вельмі цяжка.

У дні дзяржаўных святаў: 3 мая – Дзень Канстытуцыі і 11 лістапада – Дзень Незалежнасці, у Язне адбываліся дэфіляды. Ішлі школьнікі, ужэнднікі (чыноўнікі), пажарнікі, а таксама ваенныя памежнікі з недалёкай памежнай заставы.

Звычайна бацюшка выходзіў з царквы пры поўных рэгаліях асвячаў і маліўся ля помніка Пілсудскаму. Магчыма ён меў рацыю, калі так стараўся, бо ўсё ж тут ён пакуль сябе адчуваў у бяспецы і жыў не дрэнна. А вось ксёндз штосьці гэтага не рабіў. Праўда ці не, а людзі казалі, што ксёндз не моліцца таму, што ў Пілсудскага жонка габрэйка.

Касцёл у Язна быў не вялікі, перабудаваны з панскага дома. Бальшавікі ў 1939 годзе з яго зрабілі клуб.




Раён Язна на польскай карце.



**Антон Фурс з жонкай Алесяй (у дзявоцтве Умпіровіч) . Паставы, 8.06.2007 г., фестываль «Звіняць цымбалы і гармонік».** Фота Ул. Скрабатуна.

Недалёка ад Язна ў в. Курылавічы была панская сядзіба. Гаспадар – пан Мурашоў меў каля 100 га зямлі, быў добрым і справядлівым чалавекам. Увесь час даваў сродкі для школьных абедаў, дапамагаў суседзям і нават фінансаваў бедных, але здольных вучняў для вучобы ў гімназіі.

Як толькі прыйшлі саветы – яго зараз жа арыштавалі ў страшную Беразвецкую турму. Ён там не перанёс здзекаў, якія над ім чыніла НКВД і закончыў свой жыццёвы шлях страшнай смерцю – усунуў галаву ў палаючую печ і загінуў.

За польскім часам я скончыў 5 класаў.

## II

Быў верасень 1939 года. Савецкія войскі перайшлі польскую граніцу і хутка занялі ўсю Заходнюю Беларусь, якую палякі называлі Крэсы Всходне.

Сустракалі іх добра, з кветкамі. Але ж нашы "асвабадзіцелі" былі нейкія занядбаныя,



**Касцёл Маці Божай Вастрабрамскай у Язне.** *Здымак да 1939 г.*




**Дэлегацыя гміны Язна на святкаванні Дажынак ў Глыбокім, 1934 год.**

# çàáûöü



**Царква Праабражэння Гасподняга ў Язне.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

дрэнна апранутыя і неахвотна ішлі на кантакт з мясцовымі жыхарамі.

Хутка з'явіліся і палітрукі, якія вельмі часта ладзілі мітынгі. Увесь час пераконвалі тутэйшых людзей як у іх добра і вольна жывецца і як мы, таксама, будзем жыць.

І мы гэта "добра" хутка адчулі, калі замест габрэйскіх крамаў была адкрыта адна дзяржаўная, у якой амаль нічога не было. Прыходзілася людзям займаць чаргу з вечара, стаяць усю ноч і купляць усё, што прывозілі і колькі давалі.

А потым, ужо зімой, пачалі вывозіць сем'і асаднікаў, багацейшых сялян і чамусьці – леснікоў. Гаспадароў жа арыштоўвалі і адпраўлялі ў турмы.

Эйфарыя закончылася, а з ёю разам і радасць светлага жыцця.

Адно толькі добра было, што з'явілася шмат танных кніжак у перакладзе на беларускую мову: Жуль Верна, Сэрвантэса, Гогаля, Гюго, проза Пушкіна і, канечне, беларускіх пісьменнікаў, якія яшчэ не былі знішчаныя.

Тэрмінова трэба было адкрываць замест польскіх беларускія школы. Педагагічных кадраў не было. Ніхто з мясцовых не ведаў літаратурнай беларускай мовы, а рускай тым больш. Пісьменных людзей таксама было зусім мала.

І вось у гэты час з Вільні ў мястэчка Язна прыязджае з сям'ёй Ігнат Васільевіч Мятла. Ён там працаваў у беларускай кнігарні.

Паходзіў ён з вёскі Кухцінцы Язненскай воласці. Нарадзіўся ў 1896 годзе. Яго старэйшы брат Пётра Мятла быў членам Грамады і паслом у польскім сейме. Пасля таго, як грамада была разгромленая палякамі, паслы былі зняволены ў польскіх турмах. Потым іх абмянялі на бальшавіцкіх вязняў і яны выехалі ў Мінск будаваць сваю дзяржаву. Але не доўга ім прыйшлося жыць у БССР – бальшавікі іх расстралялі як польскіх шпіёнаў.

Ігнат Мятла стаў дырэктарам Язненскай сямігадовай школы. На працу ў школу запрасіў былых царскіх педагагаў і маладых выпускнікоў гімназій. Усе яны былі з Дзісненскага павета.

Ігнат Мятла быў адукаваным, інтэлегентным чалавекам, добра граў на скрыпцы, меў выдатныя арганізатарскія здольнасці. А самае галоўнае – быў вялікім патрыётам і ўсяцэла аддаты справе адраджэння Беларусі.



**Магазін «Ніка» ў цэнтры Язна.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

Вольга Дук – выкладчыца геаграфіі. Закончыла Віленскую беларускую гімназію. Паходзіла з фальварка Блошнікі з сям'і свядомага беларуса.

Ліда Сініца – выкладала беларускую мову. Закончыла польскую дзяржаўную гімназію ў г. Дзісне. Паходзіла з вёскі Лычакова Язненскай воласці. Паколькі яе бацькі былі беднымі і не маглі аплочваць навучанне, то гэта зрабіў мясцовы пан Мурашоў. А вучаніцай яна была вельмі здольнай і стараннай.

Павел Юршэвіч жыў у вёсцы Забалацце Язненскай воласці. Педагагічную адукацыю атрымаў яшчэ за царскім часам. Выкладаў фізіку. І мы, вучні, звалі яго "фюзіс".

Паліна Мятла – паважанага ўзросту. Таксама атрымала педагагічную адукацыю за царскім часам. Выкладала ў пачатковых класах.

Усе яны хутка авалодалі беларускай літаратурнай мовай і, наколькі гэта было магчыма ў тых умовах, прывівалі нам вучням нацыянальную свядомасць.

Дзякуючы іх намаганням, школа да самай вайны была беларускай, а руская мова – як прадмет. Так і мінула два гады навучання пры савецкай уладзе. І хаця настаўнікі паводзілі сябе асцярожна, а ўсё такі над імі вісела пагроза звальнення, або зняволення. Асабліва гэта тычылася маладых, быўшых гімназістак і дырэктара, але пачалася вайна і карныя органы не паспелі здзейсніць сваіх злачынных дзеянняў.

## III

Ізноў змена ўлады. Немцы занялі нашу мясцовасць без бою і хутка пайшлі далей на Усход.

Пачала ўсталёўвацца мясцовая ўлада. Усе пасады хуценька занялі палякі. Але гэта працягвалася не доўга і на змену ім прыйшлі беларусы. Пачалася чарговая беларусізацыя: паўсюль адкрываліся беларускія школы, уся праца і справаводства адбывалася на беларускай мове.

У Язне зноў запрацавала сямігадовая школа з калектывам тых жа настаўнікаў.

Выкладанне вялося выключна па-беларуску, апрача нямецкай мовы некалькі гадзін на тыдзень. Упершыню мы пазнаёміліся з сапраўднай гісторыяй Беларусі па Ластоўскаму. Геаграфію вучылі па Смолічу, а ў мове выкарыстоўвалі граматыку Тарашкевіча. Вучылі дарэвалюцыйныя творы Купалы, Коласа, а таксама Багушэвіча, Марцынкевіча, Багдановіча, Цёткі і іншых. Цікавіліся найноўшай літаратурай, што выдавалася ў час акупацыі. Я, напрыклад, выпісваў, нават, газету "Раніца", якая выдавалася ў Берліне. Адтуль таксама атрымліваў два часопісы (назву забыўся), якія выдавалі беларускія студэнты. З яго я і пазнаёміўся з творамі Ларысы Геніюш.

Запомніўся ілюстраваны часопіс "Новы шлях", дзе я пазнаёміўся з драматычным творам Францішка Аляхновіча "Круці не круці – трэба памярці", а таксама з дакументальнай аповесцю " У кіпцюрах ГПУ".

У нашай школе была добрая мастацкая самадзейнасць. Часта давалі канцэрты не толькі ў Язне, але і буйнейшых вёсках воласці. Вялікай папулярнасцю карысталіся дэкламацыі патрыятычных вершаў, напрыклад: "Не пагаснуць зоркі ў небе" – Купалы, а найбольш Коласа – "О, край родны, край прыгожы..." Толькі канцоўка там была іншай, чым у савецкіх выданнях:

*Але ж, брацця, край не згінуў,*
*Не пагнуўся яго стан.*
*І і з нас душы не выгнаў*
*Ні маскаль, ні польскі пан.*

Спявалі песні народныя і ў большасці на словы Багдановіча. І яшчэ, на першых парах гімн "Ад веку мы спалі і нас разбудзілі", а потым сталі выконваць: "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

У 1942 годзе адбыўся першы выпуск сямікласнікаў (каля 15 чалавек). Лёс іх склаўся па-рознаму. Адны з іх: Мядзелец, Юршэвіч і Фурс потым закончылі Глыбоцкую прагімназію.

А Бялевіч і Спірковіч, якія вучыліся годам пазней, не змаглі закончыць 7 класаў, бо школа была спалена партызанамі, і яны заканчвалі навучанне ў другіх школах.

Настаўнікі павінны былі ўладкоўвацца таксама ў павеце, а старэйшыя жылі дома.

Ігнат Мятла потым кіраваў павятовым аддзелам БНС (Беларускай Народнай Самапомачай). Пасля вайны ён быў арыштаваны НКВД, засуджаны на 10 гадоў. Выйшаў з няволі ў 1956 годзе і памёр у 1978 годзе ў Вільні, дзе жыў са сваёй сям'ёй. Настаўніцы Вольга Дук і Ліда Сініца, відавочна, таксама жылі ў Літве, але далейшы лёс іх невядомы.

Усіх іх па праву можна аднесці да ветэранаў адраджэння і ганарыцца тым, што яны змаглі зрабіць у той не просты гістарычны час.

Пяцёра выпускнікоў Язненскай школы, вучыліся потым у Глыбоцкай педвучэльні. Спрычыніліся да стварэння Саюза Беларускіх Патрыётаў – падпольнай антысавецкай арганізацыі і былі жорстка пакараныя савецкай уладай. Гэта: Васіль Мядзелец, Леў Бялевіч, Алесь Юршэвіч, Антось Фурс, Пётр Спірковіч.

Гэта яшчэ раз гаворыць аб тым, які вялікі ўплыў зрабілі нашы настаўнікі на сваіх вучняў, прывіваючы ім любоў і павагу да ўсяго роднага беларускага.

Цяпер мястэчка Язна чамусьці стала вёскай, хаця павялічылася пасля вайны ўдвая. Тут знаходзіцца сельсавет і цэнтр калгаса "Язна". Пабудаваны вялікі будынак, дзе месціцца досыць добры клуб, бібліятэка, а на другім паверсе – кантора калгаса.

Маецца ПМК, якая займаецца меліярацыяй забалочаных зямель, невялікі шпіталь, дзе дажываюць свой апошні шлях старыя, адзінокія людзі.

Адзін раз у год на праваслаўнае свята Спаса тут адбываецца вялікі фэст. З усіх канцоў Беларусі і часта і з замежжа збіраецца шмат людзей.

На месцы спаленай 7-годкі пабудаваная новая 10-годка. Да сённяшняга дня яна яшчэ беларуская. Тутэйшыя жыхары таксама захавалі сваю мову, асабліва старэйшае пакаленне.

*г. Паставы, лета, 2005 г.*

**P.S.** Вучнямі Язненскай 7-годкі, якія вучыліся ў 1941-1942 гг (пад нямецкай акупацыяй), 6 і 7 класы:

1. Васіль Мядзелец,
2. Антон Віктаравіч Фурс,
3. Антон Эдуардавіч Фурс,
4. Аляксандр Юршэвіч,
5. Віктар Юршэвіч,
6. Аляксандр Александровіч,
7. Рая Лабудзь,
8. Міхал Казельскі,
9. Пётр Кубліцкі,
10. Галіна Мятла,
11. Ірына Канавальчык,
12. Марыя Жук,
13. Вольга Лэнская,
14. Глафіра Валынец,
15. Вольга Басянок,
16. Лявон Бялевіч,
17. Пятро Спірковіч.

Гэта тыя мае сябры, аб якіх я не забыўся і да гэтага часу. Шкада толькі, што большасці з іх няма ўжо ў жывых, а іншых лёс мне невядомы.

# Часцей за ўсё ў расстаўленыя петлі трапляюць самі браканьеры

**А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Першы месяц 2010 года выдаўся вельмі марозным. Халодна не толькі людзям, але і жывёлам, птушкам. Усё часцей грамадзяне сталі паведамляць у прыродаахоўныя органы аб тым, што да іх у двор прыходзяць дзікія жывёлы, прымаюць ежу з рук. У горадзе Глыбокае, на рацэ, якая выцякае з возера Кагальное, поўна дзікіх качак, якія прама з рук людзей бяруць хлеб, мароз і голад прымусіў іх пайсці за дапамогай да людзей. Таму хацелася б загадзя сказаць, што трэба дапамагчы птушкам выжыць у гэтую халодную зіму.

На некаторых не глыбокіх азёрах раёна рыба, шукаючы выратавання ад замора, стала сыходзіць у рэкі, каб увесну вярнуцца на нераст, але тут як тут нашы браканьеры. Перагароджваюць рэкі мярэжамі і карыстаючыся не зусім спрыяльнымі ўмовамі для зімоўкі рыбы ловяць яе на шляхах пераходу з азёр у рэкі.

Адно з такіх азёр, возера Царкавішча Глыбоцкага раёна. З возера выцякае ручай, які злучаецца з ракой, і вось гэты самы ручай і аблюбавалі браканьеры, але пір падчас чумы падоўжыцца не доўга, а для асобных грамадзян, ён ужо скончыўся. Пакаранне, якому затрыманыя парушальнікі будуць падвергнутыя, значна перавысіць колькасць пазапраўна здабытай імі рыбы.

Так, 22 студзеня 2010 года каля 18 гадзін на ручаі каля в. Мосар супрацоўнікамі міжрайінспекцыі затрыманы грамадзянін Н. з мярэжай і пазапраўна здабытай рыбай, зараз яго чакае вялікі штраф. Такіх прыкладаў можна прывесці і больш, а жадаючых пайграць з інспекцыяй у «рускую рулетку», першым чынам просім добра падумаць, аб сабе, аб сям'і, аб дзецях, каб рыбка пазапраўна здабытая не сталася залатой.

Не супакойваюцца і іншыя браканьеры, ставяць петлі, у надзеі злавіць зайца, лісу, а калі атрымаецца, то і кабана, але часцей за ўсё ў расстаўленыя петлі трапляюць самі. Так, 18 студзеня супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі сумесна з работнікамі лясгаса ў лесе, недалёка ад г. Глыбокае, затрыманы грамадзянін М., які расставіў петлі на жывёлін. Меру пакарання вызначыць раённы суд.

Аб усіх выяўленых парушальніках, паіменна, супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі будуць паведамляць у сродках масавай інфармацыі па выніках разгляду парушальнікаў у судах.

Просім грамадзян неабыякавых да прыроды, паведамляць аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства ў Глыбоцкую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету па тэлефонах :

– «гарачая лінія»: 8-02156- 2-86-70 кругласутачна.

– мабільныя: 897-23-02, 890-55-28, 511-39-94 кругласутачна.


Фота Ул. Скрабатуна

# МНС паведамляе

**А.А. Панфілка,**
*інспектар ІДПН*

Шматлікія фактары з'яўляюцца чыннікам узнікнення пажараў. І усё ж кожнаму ўзгаранню папярэднічае людская бяздумнасць. Менавіта парагарда да элементарных правілаў бяспекі і прыводзяць да страшных трагедый.

Насцярожвае трывожны пачатак гэтага года. На 25.01.2010 года ў раёне адбылося 10 пажараў. Тры чалавекі загінулі ў агні. Шкода ад пажараў склала 8,4 млн.рублёў. Усё гэта вельмі страшна і павінна прымусіць кожнага жыхара Глыбоччыны быць вельмі акуратнымі ў карыстанні з агнём.

Такія факты выклікаюць беспакойства ў супрацоўнікаў інспекцыі Дзяржпажарнагляду Глыбоцкага раёна. У гэтай сувязі распрацаваныя і праводзяцца шэраг мерапрыемстваў, накіраваных на ўмацаванне супрацьпажарнай бяспекі. Адно з іх, і даволі маштабнае, – месячнік па пажарнай бяспецы ў побыту і на вытворчасці – пачаўся 12 студзеня 2010 года і падоўжыцца да 31 студзеня 2010 года. У гэты час праводзіцца вялікі аб'ем прафілактычных прац. У прыватнасці, інспектары Дзяржпажарнагляду наведваюць прадпрыемствы і арганізацыі, правяраюць стан супрацьпажарнай бяспекі, праводзяць інструктажы, гутаркі, лекцыі. Усім асабістым саставам Глыбоцкага РАНС праводзіцца абследаванні жылога сектара, адмысловая ўвага надаецца супрацьпажарнаму стану дамоў адзінокіх і састарэлых грамадзян, дамам, дзе пражываюць шматдзетныя сем'і і дамам грамадзян, якія знаходзяцца ў сацыяльна-небяспечным становішчы. Правядзенню гэтага месячніка ўвагу павінны надаць і кіраўнікі працоўных калектываў. Ім неабходна правесці пазачарговыя інструктажы са спецыялістамі і працоўнымі, паклапаціцца аб умацаванні матэрыяльнай базы па супрацьпажарнай бяспецы. Паклапаціцца пра ўсё гэта – наш найважнейшы абавязак.

# Польшча плануе падпісаць з Беларуссю дамову аб бязвізавым рэжыме

**Алесь Сьнег**

**Падпісанне дамовы запланавана на люты гэтага года. Аналагічную дамову Беларусь плануе падпісаць з Літвой.**

Дамова аб бязвізавым рэжыме паміж Беларуссю і Польшчай дазволіць грамадзянам двух краін, якія пражываюць у памежнай зоне, перасякаць дзяржаўную мяжу без атрымання шэнгенскай візы, кошт якой складае 60 еўра. Для спрошчанага перасячэння мяжы такім грамадзянам досыць будзе атрымаць дазвол, заплаціўшы аднаразова 20 еўра.

Прадстаўнік польскага МЗСа паведаміў «Еўрапейскаму радыё для Беларусі», што дамова аб бязвізавым рэжыме можа быць падпісана ўжо ў лютым.

«Умовы практычна ўзгодненыя і проста чакае падпісання адпаведнымі асобамі. Чакаецца візіт патрэбнага ўзроўню. Спадзяемся, што самае пазней у лютым умова аб памежным перамяшчэнні будзе падпісаная», – паведаміў супрацоўнік польскага МЗСа.

Варта адзначыць, што аналагічную дамову аб бязвізавым памежным рэжыме планавалася падпісаць у 2009 годзе паміж Беларуссю і Літвой. Дакументы ўжо былі гатовыя для падпісання і чакалася, што дамова будзе зацверджана падчас візіту Прэзідэнта Беларусі ў Вільнюс. Аднак гэтага не адбылося. Тым не менш, літоўскія дыпламаты мяркуюць, што дамову аб бязвізавым памежным рэжыме атрымаецца падпісаць з Беларуссю ў 2010 годзе.

# Расія адмовілася ад паставак беларускай згушчонкі

**Рассельгаснагляд выявіў 274 тоны імпартаванага ў Расію з Беларусі згушчанага малака, якое не адпавядае ветэрынарна-санітарным патрабаванням.**

Як паведамляе БелТА, 274 тоны беларускай згушчонкі накіроўваліся ў Краснаярск і хуткім часам будуць вернутыя вытворцу - Глыбоцкаму малочнакансерваваму камбінату.

«У адпаведнасці з указаннем Рассельгаснагляду аб правядзенні лабараторнага маніторынгу прадукцыі прадпрыемстваў Беларусі, кіраўніцтвам Рассельгаснагляду па Краснаярскім краі было накіравана на даследаванне згушчанае малако вытворчасці ААТ «Глыбоцкі малочна-кансервавы камбінат», – гаворыцца ў паведамленні Рассельгаснагляду. – Па выніках даследаванняў, праведзеных у ДЛ ФГУ «Краснаярскі рэферэнтны цэнтр Рассельгаснагляду», выяўлена неадпаведнасць шасці партый дадзенай прадукцыі агульнай вагой 274 т па мікрабіялагічных паказчыках».




Неадпаведнасць прадукцыі ветэрынарна-санітарным патрабаванням пацверджана паўторнымі лабараторнымі даследаваннямі ў Краснаярскім цэнтры стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі.

Зараз прымаюцца меры для вяртання прадукцыі пастаўшчыку.

«Першасныя станоўчыя вынікі па мікрабіялагічных паказчыках атрыманыя яшчэ ў трох партыях (137 т) малака згушчанага вышэйназванага завода-вытворцы, – паведамляе Рассельгаснагляд. – Прадукцыя змешчана на ізаляване захоўванне, пробы накіраваныя на паўторныя лабараторныя даследаванні».

# Беларускім студэнтам прапануюць стыпендыі для навучання на працягу семестра ва ўніверсітэтах Берліна, Гамбурга ці Мюнхена

**Нямецкая няўрадавая арганізацыя Copernicus прапануе беларускім студэнтам, якія валодаюць нямецкай мовай, стыпендыі для навучання на працягу семестра ва ўніверсітэтах Берліна, Гамбурга ці Мюнхена.**

Дванаццаць стыпендый прапанаваны студэнтам прававых, эканамічных і сацыяльных спецыяльнасцяў з краін Усходняй і Цэнтральнай Еўропы. Пасля заканчэння семестра студэнты атрымаюць магчымасць застацца для двухмесячнай практыкі ў нямецкай кампаніі ці грамадскай арганізацыі.

Падчас вучобы і стажыроўкі Copernicus забяспечвае пражыванне стыпендыятаў у сем'ях ці інтэрнатах, аплачвае расходы на пражыванне, уключаючы страхоўку, плату за навучанне і грамадскі транспарт. Штомесяц стыпендыяты таксама змогуць атрымліваць грошы на кішэнныя расходы.

Апошні тэрмін падачы заяў – 1 сакавіка. Пачатак навучання – 1 кастрычніка. Падрабязнасці на сайце арганізацыі www. copernicus-stipendium.de.

*БелаПАН.*

# У Мінску ў 2009 г. часцей за ўсё нараджаліся Дар'і і Уладзіславы

**Самым папулярным жаночым імем, якое далі дзіцяці ў сталіцы ў 2009 годзе, аказалася Дар'я, а мужчынскім — Уладзіслаў.**

Пра гэта распавялі ў ЗАГСе Маскоўскага раёна Мінска, які з'яўляецца лідэрам па нараджальнасці, Дар'яў нарадзілася 120, Уладзіслаў — 99.

У пераліку самых папулярных жаночых імёнаў (у парадку змяншэння) — Дар'я, Настасся (Анастасія), Ганна, Марыя, Паліна, Лізавета, Ксенія, Аляксандра.

Хлопчыкаў называлі часцей за ўсё Уладзіславамі, Арцёмамі, Іванамі, Ягорамі, Максімамі, Аляксеямі, Мікітамі, Ільямі.

